# РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА "Рух "За Свабоду". Выпуск № 3 красавік 2012




# Тактыка дзвюх "П"

**У красавіку кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка, кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Ўладзімір Макей ды міністр замежных справаў Сяргей Мартынаў зрабілі некалькі заяваў датычна наладжвання стасункаў з Еўрасаюзам. Маўляў, гатовыя да дыялогу. Што стаіць за гэтым і як зрабіць так, каб дыялог даў хоць нейкі плён, а не стаўся імітацыяй ці кароткачасовым трэндам у лавіраванні паміж Захадам і Ўсходам?**





*"Давайце сядзем спакойна за стол і будзем абмяркоўваць. Размова напэўна не будзе простай і лёгкай для абодвух бакоў. Але не будзем рабіць гэтага – не будзе руху"*, – заявіў, напрыклад, Мартынаў.

*"Хочаце вы, каб вашыя паслы, якіх вы раптам чамусьці выцягнулі з Беларусі, вярнуліся назад – мы не супраць. Але, натуральна, нам бы хацелася, каб яны займаліся тут не нейкімі закулісным справамі, накіраванымі супраць развіцця нашых адносін"*, – сказаў кіраўнік МЗС Беларусі.

Па словах Мартынава, "*будзе несур'ёзна*", калі паслы вернуцца, а Еўрасаюз потым пойдзе на *"чарговы набор санкцый"*.

## Аперацыя "Размовы пра дыялог"?

*"Выглядае на тое, што Мінск пачынае спецаперацыю "аднаўленне размоваў пра дыялог з Захадам". Магчыма, ківач  ідзе ў адваротны бок"*, – кажа ў сваім каментары да заяваў беларускага кіраўніцтва дарадца старшыні Руху "За Свабоду" **Алесь Лагвінец**.

*"Нягледзячы на прыхільнасць Крамля сітуацыя ўнутры краіны не паляпшаецца, а новыя і ранейшыя фігуранты спісу неўязных у краіны ЕС, відаць, не вельмі шчаслівыя"*, – зазначае Лагвінец.


**Працяг на с. 3**


ТЭНДЭНЦЫІ

# Смяротнае пакаранне: беларусы супраць

Колькасць беларусаў, згодных з тым, што смяротнае пакаранне ў краіне павінна быць адменена, з 36,8% у снежні 2009 годзе ўзрасла да 49,7% у сакавіку 2012-га. Адпаведна, колькасць тых, хто супраць яе адмены, знізілася з 54,6% да 40,8%. Гэткія вынікі сакавіцкага апытання НІСЭПД.

А тых, хто лічыць неабходным увядзенне пасады ўпаўнаважанага па правах чалавека, сёння удвая больш, чым тых, хто прытрымліваецца процілеглага меркавання: 56,3% супраць 28,5%.

Шмат у чым на такія змены ў грамадскай думцы, па ўсім, паўплывала, справа аб тэракце ў мінскім метро і хуткі расстрэл прызнанных вінаватымі **Ўладзіслава Кавалёва** і **Дзмітрыя Канавалава**.

Лідар Руху "За Свабоду" **Аляксандр Мілінкевіч** кажа, што найперш перажывае тэракт у мінскім метро і падзеі вакол яго асабіста, проста як чалавек: *"І менавіта як чалавек веруючы. Бо толькі Бог можа даць і забраць жыццё. А тут 17 жыццяў абарвалі тыя, хто вырашыў узяць на сябе функцыю Бога"*.

Што тычыцца вынясення і выканання смяротных прысудаў Уладзіславу Кавалёву і Дзмітрыю Канавалаву, то для Мілінкевіча гэта "*варварская і непрымальная практыка*".

*"Толькі ў нашай Беларусі сярод усёй Еўропы яшчэ дзейнічае пакаранне смерцю. Вось ахвяраў тэракту стала на дзве болей. Мы нібыта заселі ментальна і маральна ў сярэднявеччы"*, – зазначае лідар Руху.


**Працяг на с.2**

# Байкот не дайшоў у народ

**Ідэя байкоту парламенцкіх выбараў, якой бы яна кідкой ні была, не мае падтрымкі ў беларускім грамадстве. Прычым, паводле сацыёлагаў, колькасць тых, хто выступае за байкот, за апошнія тры месяцы нават зменшылася.**




Паводле вынікаў сакавіцкага нацыянальнага апытання НІСЭПД, 41,6% беларусаў наогул не чулі пра такую прапанову ад апазіцыі, падтрымліваюць ідэю байкоту парламенцкіх выбараў 10,6% апытаных (у снежні было 11,6%), адмоўна да яе ставяцца 20,2%. Астатнім абыякава.

Паводле сацыёлагаў, гэтыя лічбы сведчаць пра абмежаваныя медыйныя рэсурсы апазіцыі і пра адсутнасць цікавасці да яе дзейнасці ў беларускім грамадстве. Выснова на паверхні – гэтую цікавасць трэба павялічваць. Як? У тым ліку выкарыстаўшы інфармацыйна-агітацыйныя магчымасці удзелу ў выбарах. З маральна-палітычным зняццём кандыдатур з некалькі дзён да галасавання, калі ў краіне застануцца палітзняволеныя, а ў выбарчых камісіях прадстаўнікоў апазіцыі не апынецца, што будзе азначаць падлік галасоў па-старому з загадзя вядомым вынікам.

**Юрась Губарэвіч**, намеснік старшыні Руху "За Свабоду" прапануе апазіцыйным кандыдатам выступіць на выбарах з агульным пасланнем.

*"На жаль, апазіцыя не мае эфектыўных каналаў камунікацыі, і наступныя парламенцкія выбары якраз могуць стаць такім каналам. Канкрэтныя асобы, якія пойдуць на выбары, выкарыстоўваючы дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, легальныя пікеты, якія нельга будзе забараніць, будуць даносіць пасланне беларускім грамадзянам"*, – кажа Губарэвіч.

Байкот – досыць эфектыўная мера для тых, хто працуе на вузкую радыкальную групу насельніцтва, для тых, хто знаходзіцца выключна ў інтэрнэце і не мае ніякіх структур у Беларусі, паразважаў ён у інтэрв'ю "Тут і цяпер": *"Для тых жа, хто хоча працаваць з шырокім колам насельніцтва, выкарыстанне механізмаў выбарчай кампаніі будзе больш эфектыўным, чым размовы пра байкот, якія, як сведчаць апытанні, насельніцтва не разумее і не падтрымлівае"*.

Ну а наконт сцвярджэнняў пра тое, што апазіцыю трэба мяняць і што яна ні на што не здольна паўплываць, намеснік старшыні Руху сказаў так: *"Яны існуюць столькі год, колькі і апазіцыя. Заўсёды знаходзіцца нехта, хто можа даць ацэнку ўсім і ўсяму, але не можа стаць нападзе гэтай барацьбы і, адпаведна, вытрымаць той удар, які трымае беларуская апазіцыя. Канешне, ёсць пэўныя хібы і недахопы, але, на жаль, дадзеная сітуацыя не спрыяе з'яўленню новых сіл, якія маглі б замяніць дзеючую апазіцыю"*.

Між тым, ёсць нагода ў выніках апытанняў і для аптымізму. Так, толькі 30% беларусаў на парламенцкіх выбарах збіраюцца галасаваць за кандыдатаў-прыхільнікаў Лукашэнкі, 23% – за ягоных праціўнікаў, 29% – за нейкіх іншых кандыдатаў.

# Смяротнае пакаранне (працяг)

Пачатак на с.1




*"Разгляд гэтай справы, узровень доказаў ў судзе, у справядлівасць якога я, як і многія беларусы, не паверыў, толькі актуалізавалі пытанне наконт адмены ці хаця б мараторыя на смяротнае пакаранне,* - лічыць Аляксандр Мілінкевіч. - *Дзяржава абавязана пайсці на такі крок дзеля гуманізацыі грамадства, улады і стасункаў паміж уладай і грамадствам, вяртання да хрысціянскіх каштоўнасцяў"*.

Між тым, Рух "За Свабоду" накіраваў генеральнаму сакратару ААН інфармацыю пра смяротнае пакаранне ў Беларусі.

**Пан Гі Мун** рыхтуе даклад па пытанні смяротнай кары да 21-й сесіі Савета па правах чалавека ААН, якая адбудзецца ў верасні. Генсек ААН папрасіў праваабарончым арганізацыям паведаміць яму пра сітуацыю са смяротным пакараннем у іхніх краінах.

У накіраваным актывістам Руху з Брэста, праваабаронцам **Раманам Кісляком** дакуменце выкладзены пытанні, звязаныя з прымяненнем смяротнага пакарання ў Беларусі з 1 ліпеня 2011 года па 10 красавіка 2012 года. За гэты час былі пакараныя праз смерць чатыры чалавекі.

Прычым трое былі забітыя нягледзячы на тое, што ў Камітэце ААН па правах чалавека зарэгістраваны справы па індывідуальных паведамленнях аб парушэнні іх права на жыццё, а ўраду Беларусі высланы ноты аб тым, каб у межах прамежкавых мер абароны не прымяняць смяротную кару ў дачыненні да іх, пакуль справа не разгледжаны ў Камітэце.

Праваабаронца таксама звярнуў увагу на тое, што дату пакарання смерцю ні прысуджаны да смерці, ні яго адвакат, ні сваякі загадзя не ведаюць. А целы пакараных смерцю для пахавання сваякам не выдаюць, пра месца пахавання ім не кажуць.

# Тактыка дзвюх "П" (працяг)

Пачатак на с.1

Разам з тым, на ягоную думку, *"рэжым вельмі дбае пра "захаванне твару" ўнутры грамадства і сярод наменклатуры".* Таму, кажа Алесь Лагвінец, *"зараз мы чуем пусты барабанны бой наконт гатовасці да дыялогу"*.

Гэта – *"тыя самыя савецкія штампы, якія адлюстроўваць няведанне і нежаданне ведаць, як робяцца справы ў цывілізаваным свеце"*.

Больш за тое – *"улады Беларусі граюць вар'ята, бо ўсіх пераконваюць, што дыялог патрэбны Захаду, а не рэжыму"*.

## Што думае народ?

Дарэчы, сімптаматычныя вынікі для праўладнай прапаганды атрымаў падчас сакавіцкага нацыянальнага апытання НІСЭПД.

Так, на пытанне *"Заходнія краіны дамагаюцца ад беларускіх уладаў вызвалення людзей, асуджаных за ўдзел у маніфэстацыі пасля выбараў 2010 г. З гэтай нагоды выказваюцца розныя меркаванні. З якім з іх Вы згодны?"* большая частка апытаных (44,5%) адказалі "*гэтыя людзі ні ў чым не вінаватыя, іх варта вызваліць незалежна ад пажаданняў Захаду*". 21,4% сказалі *"гэтыя людзі вінаватыя і хай сядзяць, нельга саступаць ціску іншых краін"*, а 17,8% – *"гэтыя людзі вінаватыя, але іх варта вызваліць, каб палепшыць адносіны з Захадам"*.

Адзначым таксама, што колькасць рэспандэнтаў, што станоўча ацанілі пашырэнне санкцый ЕС і ЗША супраць "*больш за 200 беларускіх чыноўнікаў, суддзяў і інш на чале з А. Лукашэнкам, якіх лічаць адказнымі за парушэнне дэмакратыі і правоў чалавека*", за год прыкметна вырасла: з 17,5 % у сакавіку мінулага года да 24% сёння. Калі да гэтага дадаць колькасць тых, хто да іх абыякавы (37%), можна рабіць выснову, што спробы ўладаў *"узняць народ"* супраць санкцый наўрад ці будуць мець поспех, адзначаюць сацыёлагі ў аналізе вынікаў апытання.

Нават далёкія ад палітыкі людзі ведаюць, дзякуючы чыёй дапамозе настала эканамічная стабілізацыя, кажуць сацыёлагі. Пры гэтым беларусы не падтрымліваюць продаж "Белтрансгаза" "Газпрому" і супраць гіпатэтычнага ўвядзення ў нашай краіне расійскага рубля.

> *Спробы ўладаў "узняць народ" супраць санкцый наўрад ці будуць мець поспех*

"Эканамічнае самаадчуванне" беларусаў працягвае стабілізавацца, канстатуюць сацыёлагі НІСЭПД: хоць колькасць тых, чыё матэрыяльнае становішча за апошнія тры месяцы палепшылася, усё яшчэ нашмат менш колькасці тых, чыё становішча пагоршылася, суадносіны гэтых паказчыкаў (15,3% на 40,4%) значна лепш, чым у снежні (7,1% на 59,8%) і тым больш у верасні (5,1% супраць 73,7%).

Вырас і рэйтынг Лукашэнкі – да 34,5% цяпер з 20,5% у верасні і 24,9% у снежні мінулага года.

*"Стабілізацыя "эканамічнага самаадчування" адбілася і на знешнепалітычнай арыентацыі беларусаў",* – кажуць у НІСЭПД.

Калі ў верасні мінулага года колькасць людзей, гатовых на гіпатэтычным рэферэндуме выбраць аб'яднанне з Расіяй, практычна супадала з колькасцю тых, хто абіраў ўступленне ў Еўрапейскі Саюз (41,5% супраць 42%), то сёння гэтыя суадносіны складаюць 47% на 37,3%.

У той самы час сімпатыі да Расіі саступаюць уласным эканамічным інтарэсам: станоўча ставяцца да таго, што ў мінулым годзе Беларусь (чытай: Лукашэнка) прадала Расіі газатранспартную сістэму "Белтрансгаз" 15,1%, а адмоўна – 53,5% (абыякава – 20 , 4%), да ідэі пераходу на расійскі рубель – адаведна 29,5% на 41,7% (абыякава 19,1%).

## Пуга і пернік

У тым ліку зважаючы на геапалітычныя настроі беларусаў, Еўрасаюзу і апазіцыі варта даслаць грамадству пазітыўны альтэрнатыўны сігнал.

У гэты плане вельмі дарэчы распачаты Еўракамісіяй "Еўрапейскі дыялог для мадэрнізацыі", які мае на мэце распрацоўку рэформаў для нашай краіны у розных сферах – своеасаблівы "план Маршала". Разам з тым гэта і стратэгія ўцягвання ўладаў Беларусі ў еўраінтэграцыю. Хаця фармат іхняга ўдзелу ў "мадэрнізацыйным дыялогу" і тое, ці будзе ён наогул, прагназаваць складана.

*"З дыктатурамі працуюць пугай і пернікам,* – лічыць старшыня Руху "За Свабоду" **Аляксандр Мілінкевіч** – *Я, напрыклад, за пагрозу пугі, але пры гэтым – за дазаваны, абумоўлены пернік. Вось гэтага перніка не хапае. Гэта значыць, улады таксама павінна разумець, што можа даць Еўропа, калі яны зробяць крокі да дэмакратыі"*.

То бок, гаворка вядзецца пра "дарожную мапу" – з канкрэтнымі пакрокавымі дзеяннямі, а не словамі. Натуральна, што Еўрасаюз засцерагаецца чарговай імітацыі і дыялогу, і чаканай дэмакратызацыі, а таму, рыхтуючы пернік, не адкідае пугі (тактыка дзвюх "П")

Еўрапейскі парламент заклікаў Савет ЕС узмацніць абмежавальныя захады супраць асяроддзя прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі і ўвесці ў дачыненні да Беларусі кропкавыя эканамічныя санкцыі.

Прынятая ў Бруселі рэзалюцыя заклікае таксама ажыццявіць ціск на Міжнародную федэрацыю хакея: на думку еўрадэпутатаў, Беларусь не можа быць гаспадыняй чэмпіянату свету па хакеі 2014 года да таго моманту, пакуль у краіне не палепшыцца сітуацыя з правамі чалавека. У прыватнасці, пакуль за кратамі будуць знаходзіцца палітзняволеныя.

# "Без парашуту ў Расію"

**У інтэрв'ю Delfi лідар Руху "За Свабоду" Аляксандр Мілінкевіч адзначыў, што самым важным пытаннем на сёння ў адносінах ЕС і Беларусі ёсць тое, знікне дзяржава або будзе жыць.**

– Станем мы пратэктаратам Расіі або абярэм еўрапейскую дарогу – для мяне гэта галоўнае пытанне. Я лічу, што Аляксандр Лукашэнка – гэта вялікая праблема для Беларусі, але не адзіная і нават не асноўная. Лукашэнкі прыходзяць і сыходзяць, а краіна павінна жыць, і на нас ляжыць вялікая адказнасць за гэта. Сёння так усё складаецца, што палітыка, якая рэалізуецца ўнутры краіны і нашымі партнёрамі з ЕС па-за краінай, усё больш прыводзіць да таго, што мы падаем без парашута ў Расію.

**– Гэта небяспека?**

– Я хачу жыць у сваім доме. У мяне няма русафобіі, але я хачу жыць у Беларусі, мне больш падабаецца жыць у Беларусі.

**– У дадзены момант большасць апазіцыйных палітычных лідараў у Вашай краіне тым ці іншым чынам нейтралізаваныя. У стане апазіцыіі няма адзінай пазіцыі з нагоды, скажам, нават будучых восенню парламенцкіх выбараў. За гэта іх шмат хто папракае...**

– Біць за гэта трэба апазіцыю (смяецца).

**– На Ваш погляд, ці ўдасца ўсё ж аб'яднаць сілы і перадолець супярэчнасці? І ў чым гэтыя супярэчнасці?**

– Вялікія спрэчкі ў дачыненні выбараў для мяне нецікавыя. Байкот ці абумоўлены ўдзел са здыманнем кандыдатаў у канцы, або хтосьці пойдзе да канца... Выбараў у Беларусі няма, і гэтых таксама не будзе. Гэта не выбары, гэта імітацыя. Перш чым весці спрэчкі вельмі важна сказаць, чаго мы хочам дасягнуць, якую мы ставім мэту і якія інструменты выбіраем? Калі мы хочам паказаць А.Лукашэнку дулю ў кішэні, то так, лепш за ўсё зрабіць гэта з дапамогай байкоту. Але ёсць іншыя мэты. Я выразна ведаю, паколькі шмат езджу па краіне і на апошніх выбарах чуў пра гэта на кожнай сустрэчы – людзі кажуць вельмі проста: вы кажаце, што А.Лукашэнка дрэнны, гэта мы ведаем і без вас, а чаму пры вас жыццё будзе лепш?

Гэта фундаментальнае пытанне. Можна казаць, што ў Беларусі няма палітычнай культуры, але ёсць народная мудрасць. А.Лукашэнка страціў вельмі шмат і ўжо ніколі зноў не набудзе такога ўплыву, якое калісьці меў. Аднак людзі баяцца перадаць давер апазіцыі, паколькі яны дакладна не ведаюць, з чым яна ідзе і што яна пабудуе. Яны не ведаюць, ці ў стане наогул гэтая апазіцыя, калі прыйдзе да ўлады, замірыцца. Людзі хочуць пераменаў, але спакойных, не рэвалюцыйных, хоць апошні час сталі казаць аб неабходнасці хуткіх пераменаў, што таксама вельмі добры знак.

Я мяркую, што на гэтых выбарах трэба даць максімальны адказ на пытанне аб тым, што ёсць сіла, якой варта перадаць уладу, што ў яе ёсць сур'ёзная праграма. Праграма, не проста прыдуманая тэарэтыкамі, а праграма з улікам вопыту літоўцаў, эстонцаў, палякаў, славакаў і г.д. Гэта значыць, трэба пераконваць народ, што ўладу трэба перадаць.

А.Лукашэнка моцна страціў у рэйтынгу, а што мы, апазіцыя, набылі? У 2006 годзе ў нас было 30% падтрымкі, яны ёсць і цяпер. Так што калі мы хочам вырашаць нейкія праблемы, трэба ставіць падобныя задачы, і тады для мяне бліжэй за ўсё канцэпцыя ўдзелу з умовай, што калі перад галасаваннем не будуць вызваленыя палітычныя зняволеныя, мы не пойдзем да канца. Гэта маральная пазіцыя.

**– Што можа спыніць, як Вы гэта называеце, "падзенне ў Расію"?**

– У Еўрасаюза няма стратэгіі адносна Беларусі. Нават адносна Расіі няма доўгатэрміновай стратэгіі, а адносна нас наогул няма.

Добра, што ЕС рэагуе, асуджае, прымае рэзалюцыі, нам важная маральная ацэнка.

Працяг на с. 5



# “Без парашуту… (працяг)

Пачатак на с.4

Але палітыка тым і адрозніваецца ад пазіцыі, што яна дасягае мэтаў. У ЕС – рэактыўная палітыка, у выніку А.Лукашэнку ў гэтай ізаляцыі нічога не застаецца, акрамя як ісці ў Расію. Гэта значыць прадаваць эканоміку. Калі яна будзе прададзеная, не будзе незалежнасці, таму ў ЕС павінна быць разнапланавая палітыка.

*Еўразійскі саюз – гэта аднаўленне Савецкага саюза. Мы ніколі не будзем у ім удзельнічаць на роўных.*

**– Вяртанне Уладзіміра Пуціна ў якасці прэзідэнта Расіі можа паскорыць гэтыя працэсы? Бо не сакрэт, што адносіны паміж ім і А.Лукашэнка, мякка кажучы, складаныя?**

– Складаныя і нават жорстка дрэнныя. У.Пуцін адкрыта заявіў, што яго мэтай будзе з’яўляцца пабудова Еўразійскага саюза. Для нас гэта шлях ліквідацыі незалежнасці. Я за добрыя адносіны з Расіяй, але ў незалежнай дзяржаве. А Еўразійскі саюз гэта аднаўленне Савецкага саюза. Мы ніколі не будзем у ім удзельнічаць на роўных. У тым жа ЕС ёсць праблема роўнасці, але, з іншага боку, Ірландыя можа заблакаваць прыняцце канстытуцыі. Тут гэтага не будзе, гэта будзе саюз, дзе мы будзем перыферыяй. Я за еўрапейскую дарогу развіцця, добрасуседскія адносіны з Расіяй і нейтралітэт Беларусі. Усё гэта не зможа рэалізавацца, калі будзе канцэпцыя Еўразійскага саюза.

**– Увядзенне эканамічных санкцый у дачыненні да Беларусі вырашыць праблему?**

– Не, гэта толькі пагоршыць сітуацыю. Я за шырокія візавыя санкцыі, хоць гэта нават не санкцыі, а візавыя абмежаванні.

**– Некаторыя называюць гэта спробай ЕС захаваць твар...**

– Не толькі твар. Для мяне, як беларуса, важная гэтая пазіцыя. Людзі павінны ведаць, што гэта сёння ў іх ёсць заступнік у асобе А.Лукашэнкі і можна парушаць закон, але яны павінны ведаць, што заўтра дакладна настане адплата. Але і сёння ёсць хоць нейкая адзнака цывілізаванага свету адносна парушэння законаў у Беларусі. Кропкавыя эканамічныя санкцыі – гэта таксама добра, але ў шырокіх эканамічных санкцыях я наогул не бачу плюсаў.

**– Вы падтрымліваеце тых літоўскіх палітыкаў, якія на мінулым тыдні выступілі супраць санкцый?**

– Так. Я з самага пачатку казаў, што я супраць глыбокіх эканамічных санкцый, супраць эмбарга. Па-першае, гэта б’е па простых людзях, таму што будзе беспрацоўе. Людзі скажуць, глядзіце, які Захад, а Расія нам дапамагае. Праеўрапейскія настроі адразу зваляцца. Дэмакратычная апазіцыя ў такім выпадку выглядае як агент Захаду. Таму я не бачу ў гэтым сэнсу. Усе гэтыя спрэчкі канцэнтруецца вакол наступнага: частка людзей думае пра тое, як зрабіць дрэнна А.Лукашэнку, а частка думае пра тое, як выратаваць Беларусь. Зноў жа, розныя мэты.

**– Ваш прагноз, як у сітуацыі, якая склалася будуць сябе паводзіць ўлады Беларусі, калі, як Вы кажаце, з Еўропай няма кантакту і адбываецца падзенне ў Расію? Як такая сітуацыя адаб’ецца на рухі цела беларускага рэжыму?**

– А.Лукашэнка будзе супраціўляцца падзенню ў Расію, таму што гэта патрабуе продажу галоўных актываў эканомікі і, што вельмі важна для Масквы, увядзення расійскага рубля, гэта значыць, фактычнай страты суверэнітэту. Таму ён будзе супраціўляцца, але пытанне, наколькі ў яго хопіць сіл? Еўрапейскага крыла няма, што вельмі дрэнна, паколькі яго наяўнасць змяняе атмасферу ўнутры краіны. Калі ішоў дыялог паміж беларускімі ўладамі і ЕС перад выбарамі ў 2010 годзе, рэпрэсій было ў тры разы менш. Захад, на жаль, заняты іншымі рэчамі, і Беларусь знаходзіцца на перыферыі інтарэсаў. І ў гэтым пытанні велізарная роля ў нашых суседзяў Літвы і Польшчы, таму што іх голас ўсё ж такі можа быць пачуты ў Брусэлі. А гаворка ідзе не аб рэжыме, апазіцыі, а пра тое, ці будзе існаваць краіна.

**– Вы прагназуеце ўзмацненне рэпрэсій?**

– Так, калі будзе ізаляцыя, а тым больш санкцыі, будзе значна больш рэпрэсій. А.Лукашэнка зніжае ўзровень рэпрэсіяў не таму, што ён становіцца добрым і дэмакратычным, а таму, што гэта небяспечна ў яго адносінах з Захадам. А зараз ніякіх адносін няма, і толькі Захад можа знізіць рэпрэсіі ўнутры краіны.

**– Як будзе развівацца сітуацыя з палітвязнямі, Ваш прагноз?**

– Змены да лепшага магчымыя толькі пры наяўнасці шанцу на дыялог. У нас двойчы вызвалялі палітвязняў. Першы раз, калі прыехаў Хаўер Салана і правёў таемныя перамовы. 8 чалавек на чале з Аляксандрам Казуліным выпусцілі. Другі раз, калі таемна прыязджаў кіраўнік МЗС Балгарыі Мікалай Младзенаў. Тады выпусцілі больш за 30 чалавек. Вызваленне спынілася, калі ў агенцтва Reuters “злілі” інфармацыю аб гэтым візіце. Я не ведаю, які спосаб прыдумаць, але спосабы ёсць і самыя розныя, у тым ліку і дыпламатычныя, якія могуць у імя выратавання Беларусі прымусіць А.Лукашэнку аднавіць дыялог з Еўропай. Але дыялог крытычны, абумоўлены, крок за крок, чаго не было пры першым дыялогу.

# Як ажывіць "Усходняе партнёрства"?

**Для павелічэння эфектыўнасці праграмы неабходна выпрацоўка новай палітычнай прапановы для краінаў-партнёраў, узмацненне эканамічнай прысутнасці ЕС, паўставанне ўніверсітэту "Усходняга партнёрства" і лібералізацыя візавага рэжыму, лічыць актывіст Руху "За Свабоду", палітолаг Рыгор Астапеня.**

Сёння праграма "Усходняга партнёрства" знаходзіцца ў стане крызісу. Для пераадолення праблемаў неабходныя вырашэнне ўнутранага еўрапейскага крызісу і выпрацоўка новага падыходу Еўрапейскага Саюзу ва ўсіх плоскасцях "Усходняга партнёрства". Для павелічэння эфектыўнасці праграмы неабходна выпрацоўка новай палітычнай прапановы для краінаў-партнёраў, узмацненне эканамічнай прысутнасці ЕС, паўставанне ўніверсітэту "Усходняга партнёрства" і лібералізацыя візавага рэжыму.

Ініцыятыва "Усходняга партнёрства" была з імпэтам успрынятая на самым пачатку, аднак сёння знаходзіцца ў стане крызісу. Віна за гэта ляжыць на кіроўных элітах усходніх партнёраў, якія не зацікаўленыя ў далейшай еўрапеізацыі і дэмакратызацыі ўласных краінаў і ўспрымаюць гэтыя працэсы, як небяспеку для захавання уласных аўтарытарных рэжымаў.

Гэтаксама абсалютна аб'ектыўна, што зацікаўленасць Еўрапейскага Саюзу ўсходнімі суседзямі нізкая. У параўнанні з паўднёвымі краінамі Еўропы, дзяржавы "Усходняга партнёрства" выглядаюць стабільнымі, а іх праблемы маюць перадусім унутраны характар (напрыклад, парушэнні правоў чалавека).

Адасабленне кіроўных элітаў ад удзелу ва УП робіць грамадзянскую супольнасць галоўным партнёрам еўрапейскіх краінаў.




Гэты працэс мае свае пазітыўныя і негатыўныя наступствы. Пазітыў у тым, што дзейнасць у межах УП накіраваная на больш актыўную частку грамадства і дзякуючы гэтаму змены ўнутры грамадстваў могуць мець доўгатэрміновы характар. Негатыў - што грамадзянская супольнасць мае абмежаваны ўплыў і не можа запэўніць эфект, які б маглі запэўніць улады – "тут і зараз".

Таму ва ўмовах пагрозы знікнення праграмы "Усходняга партнёрства" сёння жыццёва неабходна выпрацоўка новага падыходу, які дазволіць запэўніць максімальны пазітыўны эфект і больш рацыянальна выкарыстоўваць прызначаныя на праграму фінансавыя квоты.

Сённяшнія палітычныя прапановы ці эканамічныя санкцыі з боку Еўрасаюза не знаходзяць прадэмакратычнага водгуку сярод беларускіх кіроўных элітаў. У такіх умовах рацыянальным выглядае ўзмацненне еўрапейскай інтэграцыйнай прапановы і ўшчыльненне эканамічных сувязяў. Заслугоўвае ўвагі думка канадскага палітолага Дэвіда Марплза аб прапанове сяброўства Беларусі ў ЕС. Без сумневу, гэта дадасць праеўрапейскага імпэту беларускаму народу і частцы сённяшняй наменклатуры.

Таму вартым з'яўляецца стварэнне "Бізнес-форуму" "Усходняга партнёрства". На жаль, пры далейшых рэпрэсіях беларускіх уладаў у дачыненні да беларускай дэмакратычнай апазіцыі Беларусь ня можа браць удзел у "Бізнес-форуме". Аднак, гэта чарговы знак таго, колькі Беларусь губляе, калі ўлады адмаўляюць прынцыпы дэмакратыі і вяршэнства права. Варта зазначыць, што ўшчыльненне эканамічных сувязяў будзе карысна не толькі для краінаў - партнёраў. Не варта забываць, што краіны УП - гэта больш чым 70-мільённы рынак.

Еўрапейская Камісія мусіць перазагрузіць перамовы аб спрашчэнні працэдуры атрымання візы і знізіць цэны візаў Шэнген. Гэта неабходна для забеспячэння асабістых кантактаў паміж народамі і падтрымкі мабільнасці грамадзян краінаў-партнёраў. У выпадку Беларусі лепшым выйсцем была б адмена візавых аплатаў для грамадзянаў Беларусі. Як задача-мінімум - зніжэнне аплатаў за візы Шэнген ад 60 да 35 еўра. Варта нагадаць, што да 2008 году амбасада Францыі ў Мінску выдавала бясплатныя візы для моладзі да 25 гадоў. Сёння з'яўляецца дарэчным вяртанне гэтай ранейшай французскай практыкі.

Грамадзянская супольнасць найбольш атрымала ў межах "Усходняга Партнёрства" і цалкам выкарыстала свой шанс – менавіта грамадзянская супольнасць сёння ёсць рухаючай сілай УП. Узмацненнем дадзенай плоскасці было правядзенне супольных праеўрапейскіх кампаній у краінах "Усходняга партнёрства", што магло б засведчыць праеўрапейскія настроі ў краінах-партнёрах і ўзмацніць сувязі паміж імі.

Напрыканцы варта заўважыць, што "Усходняе партнёрства" з'яўляецца надбудовай для двухбаковых стасункаў паміж ЕС і ўсходнімі партнёрамі, што змястоўна абмяжоўвае гэтую аналітычную нататку. Аднак, выкананне вышэйшых рэкамендацый дазволіць палепшыць шматбаковае супрацоўніцтва, узмацніць незалежнасць краінаў-партнёраў і прывядзе дзяржавы "Усходняга партнёрства" да стабільнага дэмакратычнага развіцця са спраўна працуючым вольным рынкам.

# Вечны шах

**Каардынатар Руху "За Свабоду" па Гомельшчыне Пётр Кузняцоў у сваім блогу на "Беларускім партызане" вобразна аналізуе сітуацыю, у якой апынуўся кіраўнік Беларусі ў сваім манеўраванні паміж Еўрасаюзам і Расіяй.**

Кожны, хто мае ўяўленне пра такую гульню, як шахматы, ведае, што такое «вечны шах».

«Вечны шах» – гэта такая пазіцыя, пры якой кароль аднаго з бакоў, куды б ён ні пайшоў, наступным ходам усё роўна абавязкова атрымлівае шах. Так можа працягвацца да бясконцасці, але, вядома ж, часцей за ўсё гульцы завяршаюць партыю ўнічыю. Нават калі шахаваны кароль да гэтага моманту наогул застаўся ў адзіноце. Проста таму, што па-іншаму скончыць партыю ўжо немагчыма...

Ланцужок падзей апошняга часу схіляе да наступных думак. Судзіце самі.

Аляксандр Лукашэнка правёў нараду па прыватызацыі, падчас якога "парваў" усё прыватызацыйныя спісы, якія рыхтаваліся пад патрабаванні Расіі ў абмен на крэдыт ЕўрАзЭС, адпаведна, у чарговы раз прымітыўна "кінуў".

Далей адбылася тэлефонная размова Пуціна з Лукашэнкам, падрабязнасці якой не паведамляюцца. Аднак, мяркуючы па тым, што гэтай размове папярэднічала і што было, можна прыкладна здагадвацца, пра што там вялася гаворка.

А адбыліся ўслед за гэтай размовай: ультыматум беларускага боку Расавіяцыі, што прывяло да чарговай, толькі ўжо не "гандлёвай", а "паветранай" вайне, і нарада ў прэзідэнта па пытаннях знешняй палітыкі. На гэтай нарадзе ва ўласцівай яму дзікаватай манеры той фактычна абвясціў аб спыненні "халоднай вайны" з Еўропай: паслоў будуць вяртаць, палітвязняў – вызваляць. Форма выразаў ТЗП нікога не павінна бянтэжыць. Што ён там казаў, што кагосьці з паслоў будзе разглядаць персанальна – гэта глупства для бабуль, аматарак "моцнай рукі" і "хто ў доме гаспадара". Над Венскай канвенцыяй ніякі Лукашэнка не гаспадар, і ніякіх паслоў разглядаць яму ніхто не дасць. Паблізу – так дакладна.



## Што мы маем?

З вялікай доляй верагоднасці можна меркаваць, што "мядовы месяц" з Расіяй скончыўся. "Ніверляванне прыватызацыйных спісаў – размова з Пуціным – "паветраная" вайна – заявы пра тое, што будуць выпушчаныя палітвязняў", – ланцужок, які гаворыць сам за сябе.

Відавочна, Пуцін, прыйшоўшы да ўлады паўторна, не стаў адкладаць справы ў доўгую скрыню, і папрасіў АРЛ выканаць абяцанае. АРЛ, натуральна, гэтага рабіць не ўмее, і мы цяпер назіраем чарговы кідок беларускага рэжыму на Захад – у піку Расіі.

Лукашэнка карыстаецца гэтым прыёмам ужо шмат гадоў. Пойдзе да Еўропы, наабяцаў, «кіне» – пабег у Расію. Наабяцаў там, "кінуў" – назад...

У шахматах нярэдка бывае, што гулец, які прайграў усе фігуры, акрамя апошняга караля, сам лезе ў "вечны шах", рухаючыся да кута і завабліваючы туды фігуры праціўніка, каб яны, па недаглядзе сталі так, каб кароль-лузер мог хадзіць па двух клетках "туды-сюды": ад аднаго шаха – да іншага, без, тым не менш, пагрозы атрымаць мат.

Лукашэнка зараз вельмі нагадвае такога караля: за душой у яго ўжо нічога не засталося, клетак для манеўру ў яго ўсяго дзве – Усход, Захад. І разлік, адпаведна, на тое, што ён зможа хадзіць па гэтых двух клетках да бясконцасці, пакуль, у рэшце рэшт, ад яго не стомяцца і не махнуць рукой. Сам жа ён не стоміцца – ад гэтага яго жыццё і свабода залежаць...

Бяда толькі ў тым, што, падобна на тое, і Ўсход, і Захад, кінутыя "голым каралём", рады, тым не менш, кожны раз бачыць яго зноў. І гэта ўжо сапраўды можа працягвацца вечна...

Пакуль у гэтую партыю не ўмяшаецца беларускі народ. Па-іншаму нічога не будзе.



*"За душой у яго (Лукашэнкі – рэд.) ўжо нічога не засталося, клетак для манеўру ў яго ўсяго дзве – Усход, Захад. І разлік, адпаведна, на тое, што ён зможа хадзіць па гэтых двух клетках да бясконцасці..."*

# РУХавая Ада



**Рада Руху “За Свабоду” шчыра віншуе беларускую асветніцу і мастацтвазнаўцу Аду Райчонак з 75-годдзем ды зычыць здароўя і яшчэ доўгіх гадоў плённай дзейнасці на ніве папулярызацыі нацыянальнай культуры!**

Ада Райчонак у 2010 годзе за самаадданую культурніцкую і асветніцкую працу ўганараванапрэміяй “За Свабоду думкі” імя Васіля Быкава, якую заснаваў старшыня Руху “За Свабоду” Аляксандр Мілінкевіч.

Ада Эльеўна значную частку жыцця прысвяціла збіранню і папулярызацыі спадчыны вядомага мастака, этнографа і асветніка Язэпа Драздовіча. Яна стварыла ў сваёй вёсцы Германавічы, што на Шаркаўшчыне, Музей мастацтва і этнаграфіі імя Драздовіча і недзяржаўны Літаратурна-мастацкі імя Міхася Райчонка. Зараз Ада Эльеўна кіруе Культурна-адукацыйным цэнтрам імя Язэпа Драздовіча – грамадскай арганізацыяй, якую яна заснавала з паплечнікамі ў 1995 годзе. З таго часу яна арганізавала больш дзясятка плэнераў, прысвечаных жыццю і творчасці беларускіх класікаў літаратуры. Мастакі, пісьменнікі, паэты лічаць за гонар наведаць Германавічы. Ада Эльеўна таксама выдае газету «Бацькаўшчына», займаецца краязнаўствам, арганізуе мастацкія выставы ў Віцебску і Мінску.

# Беларуская мара Алеся Лагвінца

**Алесь Лагвінец стаў лаўрэатам прэміі прэміі імя Льва Сапегі. На цырымоніі ўручэнні прэміі ў Варшаве дарадца старшыні Руху сказаў, што для яго “найвялікшы гонар атрымаць узнагароду імя Вялікага Ліцвіна, канцлера і вялікага гетмана Льва Сапегі”.**

“*Веру, што адліга, а потым і вясна прыйдуць у Беларусь і не толькі як змена пораў года*”, – сказаў Лагвінец.

Па яго словах, мара пра лепшую Беларусь і вера ў яе рухалі многімі выбітнымі асобамі нашай краіны: “*Еўрапейская мара Беларусі – заняць свой пачэсны пасад між народамі, як казаў Янка Купала. Для мяне, беларуса, народжанага 415 год пасля Льва Сапегі, які меў шанец не толькі вучыцца, але і выкладаць ў еўрапейскіх універсітэтах, сёння, у 2012 годзе, беларуская мара азначае адраджэнне Беларусі, нацыянальнае і культурнае, праз вяртанне ці, дакладней, улучэнне Беларусі ў еўрапейскія інтэграцыйныя ўзаемадачыненні як самастойнай, дынамічнай і квітнеючай краіны, якая шануе правы і свабоды сваіх грамадзянаў, а таксама будуе прыязныя адносіны з усімі суседзямі”.*



Віншуем шаноўнага Алеся!

# Графіка палітарыштанта

**На выставе “Код Акрэсціна. Турэмныя малюнкі” на сядзібе Партыі БНФ (Чарнышэўскага, 3), прадстаўленыя малюнкі, якія былі створаны прыхільнікам Руху “За Свабоду” Юрасём Навіцкім падчас адміністратыўных арыштаў.**




У экспазіцыі, якую складаюць 85 графічных працаў, можна вылучыць серыі “Партрэты”, “Побыт, “Гумар”, “Жодзінскі ізалятар”, “Паштоўкі”.

*“Гэта ілюстрацыі да маіх турэмных дзённікаў. Рабіў іх дзеля таго, каб людзі ведалі, у якіх умовах у цэнтры Еўропы знаходзяцца палітарыштанты і простыя людзі, якія сядзяць за хлеб па 10 сутак”*, – кажа аўтар малюнкаў.

Наведаць выставу можна да 25 красавіка.

Газета выдаецца Рухам “За Свабоду”. Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 12.04.2012 г. Кантакты Рэдакцыі: тэлефон: 2808863, е-пошта: info@pyx.by